## Нічыпар ШЭРАНЬКІ

### Шкаляр і Ліхтар

*Байка*

Вясковы вулічны Ліхтар
Санліва моргае над лужай,
Чакае, як сюды паходкай дужай
Прысунецца Шкаляр.
— Маргну, як толькі ступіць ён
на кладку,
У лужыну каўзель — і анігадкі!
Тады парагачу,
Малога шэльму навучу,
Як частакол драць з плоту! —
Ліхтар так думае сабе ў ахвоту
І ў цемені густой
Заходзіцца святлістай смехатой.
А вунь і той, каго чакае ён,
Ледзь сунецца паўз плот
З вялізным ранцам.
— Во пасмяюся я з паганца!
Ў вадзе адразу згубіць сон!
Ідзе і спіць, як дзесьці спаў
на ўроку.
Малы ўжо за паўкрока.
І толькі ён нагу занёс,
Каб стаць на кладкі дошку,
Ліхтар наш, не марудзячы
ні трошкі,
Маргнуў.
І ён, Шкаляр,
У лужыну нырнуў!
Ліхтар смяецца, хліпае-міргае:
— Гразь у вушах! Вада паўсюль
сцякае!
Хлапчук, умяўшы дол,
З гразоты вылез
І — за кол.
Ураз шпурнуў увыш.
Ліхтар патух.
І змрок, і ціш.
***
Перш, як чыніць камусьці зло,
Падумай, каб зваротна не
прыйшло.

## Цэны для сцэны

Якія даражэзныя цяпер
Усе як ёсць, лічы, будматэрыялы:
Вагонка, шыфер, плітка і цвікі,
Гіпсакартон, клей, фарба,
шклопакеты,
Шпалеры і г.д. і да т.п.

Ды даражэйшая за ўсё — фанера,
Адзіны на сягоння дэфіцыт.
За ёй стаяць ужо дзясяткі год
У чэргах зорна-зыркія артысты
І не шкадуюць на прыдбанне
часу.
І потым, нот іржавымі цвікамі
Да нашых прыбіваючы вушэй,
Мяшкамі носяць грошы
ганарараў.





## Паздаравеў

Жыццё — хваробін набыццё.
Сямнаццаць... Сорак...
Пяцьдзясят...
І спіны чуецца ныццё,
І сэрца б'ецца неўпапад.

І фарбаў свету не відно,
І не да вершаў, не да кніг.
Ды ёсць лякарства шчэ адно —
Здаровым зробішся ты ўміг!

Дзяўчына! Як плыве-ідзе!
Пачуццяў сонечных узвеў!
І вось падрос ажно ў хадзе —
Хаця б на крок паздаравеў.




Мікола ГІРГЕЛЬ.

# Ахвяры прыгажосці

*Фотафельетон*

Каця і Алеся былі лепшымі сяброўкамі ў школе. І нават калі паступілі ў розныя сталічныя ВНУ, часта ездзілі адна да адной у госці, хадзілі ў кіно ды прыдумлялі іншыя сумесныя забавы.

У чарговы раз Каця прыехала да сяброўкі, якая жыла ў сваёй цёткі. Дзяўчына зняла вопратку, павіталася і адразу ж пачала хваліцца:

– Паглядзі, якую я сабе памаду купіла. Шыкоўна глядзіцца на вуснах, тым больш прадаўшчыца сказала, што гэта піск сезона.

– А ты ўпэўнена? Такая даверлівая, ажно страшна за цябе! Я ўвесь час гляджу каналы бьюці-блогераў, таму ведаю ўсе папулярныя тэндэнцыі, – выдала Алеся.

– Не разумею, што ты маеш на ўвазе, – здзіўлена паглядзела на сяброўку Каця.

Хітра прыжмурыўшы вочы, Алеся прапанавала:

– Хадзем да мяне ў пакой, я табе праўду майстар-клас па апошніх модных навінках.

– Неяк мне боязна, але даю згоду, – няўпэўнена прамовіла Каця.

Падрыхтоўка пачалася. Спачатку «візажыст» дастала сваю касметычку і расклала ўсё неабходнае на стале, потым пасадзіла сяброўку на стул побач і прынесла ноўтбук.

– Давай пачнём з броў. Зараз я замажу танальным крэмам твае і намалюю новыя (паказвае фота 1 і фота 2). Як табе? Пер'е ці хвалі? Ты не бойся, вядучыя стылісты і блогеры раюць менавіта так маляваць!

– Мне не падабаецца... Але раз ты так хочаш, то давай лепш хвалістыя, – праклінаючы сваю даверлівасць, сказала Каця.

І яе сяброўка старанна пачала выводзіць алоўкам новыя бровы. Праз хвілін дзесяць яна ўсміхнулася, задаволеная вынікам:

– Вось, амаль як на малюнку! Працягваем. Зараз папулярны макіяж, калі вочы нафарбаваны так, што здаецца, быццам дзяўчына нядаўна плакала горкімі слязамі (фота 3). Вось толькі я так не ўмею. Але мы зробім больш рэалістычна: я намалюю, а пасля ты пойдзеш на кухню і парэжаш цыбулю.

Калі ўсё было гатова, на твары Каці атрымалася нешта падобнае. Алеся працягвала:

– А вось вусны зараз модна рабіць так, быццам яны крыху размазаныя (фота 4) ці зноў жа, як і бровы, хвалістыя (фота 5). Прапаную другі варыянт. Табе як?

Каця ўздыхнула:

– Давай хваляй. Я пачынаю ўжо шкадаваць, што згадзілася на твой эксперымент.

– Не перажывай, прыгажосць патрабуе ахвяр! – і Алеся з натхненнем прынялася за працу.


1


2


3


4


5


6


7


8

Старанна выводзячы вусны, яна раз-пораз адрывалася і расказвала пра іншыя модныя «фішкі»:

– А яшчэ робяць мокры макіяж вачэй (фота 6). У мяне першая думка была, што тут выкарыстоўваюць крэм для абутку. І вось, ты толькі паглядзі на гэтае дзіва (фота 7). Спецыяльныя святлодыёдныя стрэлкі, у цемры свецяцца! Толькі мне здаецца, што насіць такія нязручна. А такое (фота 8) я нават на сабе спрабавала намаляваць. Такі вось «макіяж наадварот»!

– Значыцца, нічога з таго, што са мной робіш, ты не спрабавала на сабе? – пачала нешта падазраваць Каця.

– Чакай, – быццам не пачула пытання Алеся, – я табе яшчэ самага галоўнага не паказала. Шкада, што ў мяне блёстак няма, а то можна было б зрабіць і так, глядзі (фота 9, 10, 11).

– Усё, хопіць! Мне надакучыла твая мода! – Каця падхапілася са стула і пабегла да люстэрка. Убачыўшы сябе, яна ўскрыкнула: – Што ты са мной зрабіла, мне ж з такім макіяжам толькі ў цырку выступаць!

Алеся, зірнуўшы на сяброўку, зарагатала:

– Прабач, але ж ты сама хацела быць моднай. Цяпер ты разумееш – трэба меней слухаць тых, хто гаворыць, што зараз папулярна.

– Добра, добра, зразумела я ўсё. Але і ты мне пабяцай кінуць глядзець такія навінкі. Тым больш на мне эксперыментаваць, – Каця пакрыўлялася перад люстэркам.

– Эх, не стаць мне модным візажыстам, – расчараравана ўздыхнула Алеся. – Пайшлі лепей змываць гэтую «прыгажосць», а то цётка з працы прыйдзе, напужаецца.

– Ага, толькі хутчэй, бо ад такой прыгажосці і сапраўды могуць быць ахвяры, – і Каця пацягнула за руку сваю сяброўку.

**Наталля КУЛЬГАВАЯ.**


9


10


11

# Для таго чалавека

*Гумарэска*

— Хіба ты не бачыш, што наш дыван у зале ўжо нікуды не варты? — з раздражненнем сказала Васілю Антонавічу жонка. — Сорамна будзе, калі хто-небудзь чужы загляне! Дый самім нават хадзіць па ім нязручна, да дзірак пратаптаны...

— Праўду кажаш, Люба! — згадзіўся Васіль Антонавіч.

І на наступны дзень яны набылі ў бліжэйшай краме новы, прыгожы дыван. Прынеслі дадому. Васіль Антонавіч хацеў быў разаслаць яго на падлогу, але жонка спыніла:

— Ведаеш, даражэнькі, мы яго тут затопчам, забрудзім, а прыйдзе хто-небудзь у госці — і будзе непрыемна. Давай лепш пакладзём яго ў кладоўку, а як спатрэбіцца — дастанем...

Праз некалькі дзён Люба зноў звярнулася да мужа:

— Слухай, няўжо ты не бачыш, якія ў цябе пантофлі? Даўно пара на сметнік выкінуць! А калі чалавек завітае ў хату, куды вочы дзяваць будзеш?

Васіль Антонавіч набыў новыя пантофлі, модныя, зручныя. З задавальненнем стаў праходжвацца па кватэры.

— А ты хіба не ведаеш народную мудрасць: «Пашануй адзежынку дома, а яна цябе — у людзях»? — паглядзела на яго жонка. — Здымі, не забруджвай, паходзіш яшчэ і ў старых, а то раптам які чалавек зойдзе...

Неўзабаве Васіль Антонавіч і Люба звярнулі ўвагу, што ў прыхожай паламаны зэдлік.



Руслан БОГУШ.

— Які сорам! — усклікнула жонка. — На яго ж сядаць страшна! Дый чалавек зойдзе да нас, дык і прысесці не будзе куды.

Васіль Антонавіч, вяртаючыся з работы, купіў і прынёс новы зэдлік, паставіў у зручным месцы, прысеў.

— Не, даражэнькі! — падбегла да яго Люба. — Пасядзіш яшчэ і на старым, а новы схавай. Можа, які чалавек і загляне да нас, дык нам не будзе сорамна...

**Міхась СЛІВА**
*г. Рагачоў.*




Аляксандр ПЯТРОЎ.

## Маленькі сакрэт

Не лірык ты і не анёлак,
Хоць разам жывём, як жылі.
Узняцца хачу я да зорак,
Ты прагнеш бліжэй да зямлі.

У карты гуляеш азартна,
А я люблю кнігі чытаць.
Хварэеш футболам упарта,
Мая ж душа просіць спяваць.

Я вершы табе прысвячаю,
А ты — ну зусім не паэт...
Напэўна, дайшла б да адчаю,
Калі б не маленькі сакрэт.

Заўсёды любіла я кветкі,
А ты грошай не шкадаваў.
Няхітрым спосабам гэткім
Мяне да сябе прывязаў!

**Валянціна ХАЛЕЦКАЯ,**
*г. Гомель.*



**Ганад ЧАРКАЗЯН**

# У нагу з часам

*Сучасная байка*

Нарэшце дачакалася Карова,
Каб ёй далі, сялянцы сціплай, слова.
І, гледзячы Гаспадару у твар,
Прамовіла:
– Мой мілы гаспадар!
Змянілася даўно ўсё ў гэтым свеце,
Хоць сонца, як свяціла, так і свеціць.
Было раней такое немагчыма –
А ўжо мужчына жэніцца з мужчынам.
Жанчыны ў храме правяць
І на троне...
Так, дзіўныя парадкі ў свеце сёння!
Хоць я – твая уласнасць, я – карова,
Ды прапаную падпісаць дамову,
Што буду я рыкаць, як пажадаю:
Не толькі рогі, шчэ і гонар маю!
За нас даўно ўжо,
Людзі бачаць самі,
Еўропа ўся хапаецца рагамі.
А там зялёны корм дабыць лягчэй...
Таму выпісвай пашпарт мне хутчэй!..

Наш Гаспадар не лопнуў ледзь ад злосці,
Але сказаў рагатай ягамосці:
– Запомніць, даражэнькая, павінна:
Ты малако даеш мне, ты – скаціна!
І з кожным днём даваць павінна болей,
А не – дык па табе сумуе бойня.
І пашпарт там, павер, не дапаможа.
Але аб чым спрачаемся?
О, Божа!..

З такім адказам цяжка пагадзіцца.
Пайшла за плот, а там – і заграніца.
Але стаіць Пастух з шыкоўнай пугай,
Відаць, і з ім размова пойдзе туга.
– Чаго, бач, захацела! Мне вядома,
Што Бык цябе даўно чакае Сёма.
Прыгожыя заўжды ў яго нашчадкі...
Ты не крывіся, будзе ўсё ў парадку!
Дадзім і волі.
Ну, пра што гамонка!
Пайшлі,
Чакаюць паша і даёнка.

Што скажаце на гэта, людзі, вы?
Дзе хлеў каровін – там яе правы.
Бо і дасюль сялянская карова –
Уласнасць ёсць.
Чыя?
Гаспадарова!..




Сяброўскі шарж Анатоля ВОЛКАВА, 1977г.

## Смех, які заўсёды побач

*Многія людзі, якія асабіста ведалі гумарыста і сатырыка Міхася СКРЫПКУ (1907–1991), адзначалі, што побач з ім амаль заўсёды гучаў звонкі смех. За сваё жыццё ён неаднаразова аб'ехаў уздоўж і ўпоперак усю Беларусь. Дарыў людзям усмешкі і добры настрой, дзяліўся новымі творамі.*

*Усё напісанае М. Скрыпкам і сёння не страціла сваёй актуальнасці, многія гумарысты бяруць прыклад з трапных выразаў і вучацца жартаваць менавіта па матэрыялах яго кніг.*

*За свой творчы шлях выдаў зборнікі баек, вершаў, мініяцюр «Сатыра і гумар» (1958), «Сатырычны калаўрот» (1967), «Ад смеху не ўцячэш» (1975), зборнікі аповесцей, апавяданняў і гумарэсак «Мая хата не з краю» (1959), «Усяк бывае...» (1963), «Шануючы вас» (1982) і іншыя. Таксама выступаў і як драматург. Напісаў сцэнарый кароткаметражнай тэлекамедыі «Акадэмік» (пастаўлена ў 1963). Аўтар звыш трыццаці аднаактовых п'ес, камедый для мастацкай самадзейнасці.*

*І зараз, калі нашаму славутаму і таленавітаму земляку спаўняецца 110 гадоў з дня нараджэння, давайце ўзгадаем некалькі сатырычных і гумарыстычных вершаў Міхася Аляксандравіча Скрыпкі і абавязкова ўсміхнёмся!*

**Міхась СКРЫПКА**

### Заяц і Ліса

*Байка*



На сход лясныя жыхары
Збіраліся пад горкай.
Завочна Заяц у бары
Даваў Лісе «праборку».
– Пара Лісу нам правучыць,
Пара сказаць у вочы:
«Чаму ты лазіш у харчы
У курасаднік ноччу?»
Лісу Барсук перасцярог
Пра Зайцавы намеры.
І, каб ён выступіць не мог,
Ліса прымае меры.
Таму ў прамове, ды не раз,
(Лісіца справу знае!)
Як лепшага гаспадара,
І Зайца адзначае.
– Ён краю нашага краса,
Да працы скрозь ахвочы...
У Зайца бліснула сляза.
Ён лапкай выцер вочы.
Калі ў праўленне вызначаў
Лісіцу Касалапы,
То, кажуць, Заяц падымаў
Усе чатыры лапы.
Другі начальніка свайго
Ў закутку крытыкуе,
А як да справы – за яго,
Што Заяц, галасуе.

*1957*

### Аперацыя

*Фельетон*

Зрабілі аперацыю Ігнату,
Жывот зашылі – і ў палату.
Ігнат пакутуе, не спіць:
– Ой, доктарка!
Ізноў жывот баліць.
Там нешта вельмі коле,
Шчыміць, нібы ад солі.



І загадаў хірург Яўген
Узяць Ігната на рэнтген.
Калі ж узялі на «прасвет»,
А там – ланцэт.
Ну, што ж!
Кладзіся зноў, Ігнат, пад нож.

На трэці дзень
Ігнат як цень.
– Ой, мілы доктар, памажы!
Там нешта ў жываце ляжыць.
Ці не забылася сястрычка
Сваю там рукавічку?
Разрэзалі і зноў жывот Ігнату,
А там – тампончык ваты.
Тут хворы прашаптаў,
Скрывіўшы рот:
– Зрабіце мне на гузіках жывот.

Дарэчы, мне напомніў гэты жарт,
Як год таму назад
На вуліцы пракладвалі асфальт.
Дарожнікі не доўга варажылі,
Асфальт шырокі пралажылі,
А на наступны год
Праклалі тут водаправод,
Затым тэлефаністы-сувязісты
Асфальт зламалі ўвесь дачыста.

Спытаеце, у чым сакрэт?
У кожнай гаспадарцы свой бюджэт,
Сваё начальства, і свае ў іх траты,
Дзяржава-матухна багата!
Нядаўна да мяне дайшлі такія весці,
Што нейкі мудрагель у будаўнічым трэсце
Мяркуе тратуар «на гузіках» правесці.

*1980*

## Мініяцюры

### Амелькава гора



Як стаў Амелька піць –
Адкуль такое ліха?
У галаве шуміць, шуміць,
Ў кішэнях... ціха, ціха.

*1950*

### Пасля рамонту



Пасля рамонту дом
Здаў жыхарам прараб.
Вада праз дах – цурком,
А з кранаў – хоць бы кап.

*1976*

### Ваўкі і пастухі



Жыве спакон вякоў
Няпісаны закон:
Ваўкі ніколі пастухоў
Не лаялі за сон.

*1949*

### Падмасціты

Каля масцітых спрытна скрозь
Грымяць яго абцасікі.
Відаць, рашыў, што гэта ёсць
Бліжэйшы шлях у класікі.

*1953*

### Вер!



У праўду-матку вер,
Бо, як ні гавары –
Яна, як рыба, выплыве наверх,
Хоць іншы раз
І пузам дагары.

*«З сэрцам і перцам», Мн., 1987 г.*






Мужчынам, якія абяцаюць вечнае каханне, не хапае толькі бессмяротнасці.

Глядзець у корань асабліва трэба тым, хто сядзіць на галінах улады.

Там, дзе пахне ліпай, і без дуба не абыходзіцца.

Калі пасылаюць на ўсе чатыры бакі, дык даводзіцца шукаць пяты вугал.

Творчасць бязмежная, абмежаваны толькі ганарар.

Беднаму розумам грошы не дапамогуць.

Бессмяротная слава дасягаецца пры жыцці.

Нішто так іншы раз не прымушае гарачыцца чалавека, як халодны разлік.

Там, дзе камар носа не падточыць, гэта можа зрабіць чалавек.

Без грошай жыць нельга, але яны і на пахаванне патрэбны.

Каб сумленне было чыстым, не трэба пэцкаць рукі.

Вопыт падказвае, жыццё вучыць, а чалавек робіць памылкі.

Алкаголь – не прадмет першай неабходнасці, таму для яго шукаюць трэцяга.

Калі справа пахне шакаладам, дык пра цукеркі не думаюць.

Сеў на дыету – стой да канца!

У жыцці ўсё гладка, але так і паслізнуцца можна.

**Барыс КАВАЛЕРЧЫК,**
*г. Гомель.*




Пётр КОЗІЧ.

# Афарызмы

Каханне падобна да адзёру: чым пазней прыходзіць, тым больш небяспечнае.

*Дуглас Уільям Джэралд, англійскі пісьменнік-сатырык, журналіст*

Большая частка мужчын патрабуе ад сваіх жонак добрых якасцей, якіх яны самі не варты.

*Леў Талстой, рускі пісьменнік*

Існуюць розныя лекі ад кахання, але няма ніводнага надзейнага.

*Франсуа дэ Ларашфуко, французскі пісьменнік*

Шчаслівымі могуць лічыцца і тыя шлюбы, дзе вінаватым бывае толькі муж.

*Дзяніс Фанвізін, рускі пісьменнік*

Спачатку мужчына развітваецца з ілюзіямі, затым – з зубамі, і, пад канец, – з безразважнасцю.

*Элен Роулэнд, амерыканская журналістка*

Нішто не ўзмацняе каханне так, як неадольныя перашкоды.

*Лопэ дэ Вэга, іспанскі пісьменнік*




Мікола ГІРГЕЛЬ.




Алег ПАПОЎ.



## Малюе Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ





















# Палескія байкі



## Дай дуба!

Наша вёска знаходзіцца далёка не толькі ад сталіцы, абласнога цэнтра, але і ад раённага горада. Раней яе акружалі балоты. Ды і суседнія вёскі былі ізаляваны ад свету. Вось кожнае мястэчка і мае свой асаблівы дыялект. З-за гэтага часта прыезджыя не разумеюць карэнных жыхароў.

Напрыклад, аднойчы адзін гарадскі хлопец прыехаў палавіць рыбу, без дазволу ўзяў лодку ў свайго дзеда. Толькі, трэба сказаць, што яе ў нас называюць дубам. Мабыць, бо рабілі раней лодкі менавіта з гэтага дрэва. Выйшаў дзед з хаты, хацеў паехаць праверыць траву за ракою. Затым убачыў унука і пачаў крычаць:

– Хлопча, дай дуба!

Вось той спуджана і адказаў:

– Дзед, я ж яшчэ малады!

## Хітрун

Сустрэліся два гаркавыя (так у нашай мясцовасці называюць людзей, якія нячыста вымаўляюць гук р, замяняючы яго на г). Першы кажа:

– Давай палічым да дзесяці, паглядзім, хто з нас лепш гаворыць.

Другі згадзіўся і пачаў лічыць: газ, два, тгы, чатыгы...

А першы перапыніў яго і працягнуў:

– Пяць, шэсць, сем, восем, дзевяць, дзесяць.

## Міргай-не міргай, а больш не дам!

Сцяпана ў вёсцы лічылі не вельмі разумным. Ды яшчэ і нейкая хвароба прычапілася: яго вочы раз-пораз самавольна міргалі. Колькі непрыемнасцей валілася на яго галаву з-за гэтага! Асабліва ў іншых вёсках, дзе не ведалі пра такую бяду. Напрыклад, неяк на вяселлі адзін хлопец падумаў, што Сцяпан падміргвае ягонай дзяўчыне, і палез у бойку. Ой, і дасталася тады «хвораму». Таму стараўся мужчына больш сядзець дома.

А тут аднавяскоўцы сабраліся ехаць на заробкі ў Сібір. Сцяпанава жонка папрасіла брата і свата, якія былі завадатарамі ў брыгадзе, каб і мужа ўзялі з сабой.

Прыехалі мужчыны на месца. Пайшлі ў кантору дамаўляцца. Тыя, што лічылі сябе разумнейшымі, выступілі ўперад. А Сцяпан, як заўсёды, стаяў за іх спінамі, слухаў і міргаў вачамі. Старшыня ўбачыў такі «знак» і падумаў: «Ага, калі дам болей грошай, то і мне з іх перападзе значная сума». Падымалі, падымалі вяскоўцы стаўку, старшыня згаджаўся, а потым не вытрымаў і прамовіў: «Усё! Міргай-не міргай, а больш даць не магу!»

Пасля таго выпадку, калі мужчыны выпраўляліся ў заробкі, то ў першую чаргу прасілі Сцяпана паехаць з імі і моўчкі пастаяць пры заключэнні дагавора.

## Шыфроўка

Вечарам напярэдадні свята Міхась пачуў, як жонка сказала іхняй дачцэ-старшакласніцы:

– Час, Марынка, табе станавіцца гаспадыняю. Заўтра я затрымаюся на працы. Добра было б, каб ты прыгатавала некаторыя стравы.

– Добра, мамачка. Толькі раскажы, якія, – згадзілася дачка.

– Мяса насмажыш, блінцы спячэш. Гэта ты ўмееш. А вось, дачушка, запішы, што патрэбна на «аліўе» і «кукурузку», – маці дыктавала, а Марынка старанна ўсё запісвала.

На наступны дзень Міхась вечарам прыйшоў з працы. Дачка мітусілася каля пліты, нешта пякла, варыла, рэзала. Раптам зазваніў мабільны. Пагаварыўшы, Марынка з анёльскім выглядам падышла да бацькі:

– Татачка, міленькі, закончы за мяне работу. Табе толькі засталося змяшаць усе інгрэдыенты салатаў.

Я праз гадзіну-дзве вярнуся. Але ж мама прыйдзе раней, а я ёй абяцала. На табе маю шпаргалку.

Міхась, каб не страціць бацькоўскі аўтарытэт, нават не зазірнуў у паперку, а толькі сказаў:

– Ды ляці ўжо, птушачка! І не з такім спраўляўся твой бацька.

Калі дачка пабегла, Міхась глянуў на паперку і ледзь не самлеў. Пад назвай салаты «кукурузка» стаялі толькі чатыры літары «К Р Я К», а каля «аліўе» была напісана яшчэ больш дзіўная шыфроўка «Б Я К А + Г». Разгадваў гэты шыфр ажно да прыходу жонкі. Давялося здацца. Праўда, каб захаваць гонар, Міхась сказаў:

– Ты паглядзі на рэбус дачкі. Я не змог яго прачытаць.

Жонка паглядзела і засмяялася:

– Вось паскарачала. Тлумачу: на «аліўе» патрэбна ўзяць Б – бульбу, Я – яйкі, К – каўбасу, А – агурок, а пасля Г – гарох. А на «кукурузку»: К – кукуруза, Р – рыс, Я – яйкі, К – крабавыя палачкі. От табе і расшыфроўка!

– Лепш бы ты мне не тлумачыла, – расчаравана сказаў Міхась, – а то я ўжо думаў, што сёння ў нас будзе сапраўдны шпіёнскі святочны стол.

## Свінакрады

Бываюць канакрады, а ў нашай мясцовасці гэтак гадоў сорак назад з'явіліся свінакрады. І то ў адной, то ў другой вёсцы ноччу з хлеўчукоў знікалі свінні. Кім былі тыя злодзеі, пацярпелыя маглі толькі здагадвацца. Але ж кажуць у народзе: колькі вяровачцы ні віцца, будзе і ёй канец.

Аднойчы дзядзька Сцяпан прачнуўся ад нечалавечага крыку. Мільганула думка: «Вепрука забілі, крадуць!» Гаспадар кінуўся да хлява. Якім было здзіўленне, што парсюк жывы і здаровы. Але каля яго валялася акрываўленая газета. Праз дзень Сцяпан пачуў, што мужчына з суседняй вёскі раптам стаў інвалідам, бо нешта здарылася з нагою.

А ў хуткім часе людзі даведаліся і пра тое, як кралі свіней. Ноччу злодзеі прыходзілі ў чужы свінарнік. Цёмна. Адзін клаў газету вепруку на лоб, а другі моцна біў абухом сякеры па гэтай белай пляме. Усё адбывалася ціха, без лішніх слоў. Але ў апошні раз першы злодзей, дастаўшы з кішэні складзеную ў некалькі столак газету, вырашыў расправіць яе на сваім калене. Ды не папярэдзіў пра гэта свайго сябра...

**Галіна БАБАРЫКА,**
*Столінскі раён,*
*в. Мачуль.*



Алег ГУЦОЛ.




Пётр КОЗІЧ.

6 серыя

Серыял Вожыка

# ПАДМАНАМАНІЯ

## Як фастфуд прыбавіў пуд
















Ад таго, як ты гатуеш, я і растлусцеў!
Хутчэй, гэта ад тваіх перакусаў у фастфудах.


А ты, Воўка, правер.
Пасядзі месяц толькі на матчынай ежы без розных фастфудаў.


Згодны!


Праз месяц…
Месяц прайшоў, як ты не ясі гамбургераў. Прымерай!


Ого!


Клас!


Не еш болей, сынок, у фастфудзе. Там выкарыс-тоўваюцца ўзмацняльнікі смаку, якія павышаюць апетыт. Памятай: ежа павінна быць здаровай!
Усё.




## Там, за Байкалам

*З вяршыні сопкі зірнеш, як з вежы:*
*З усіх бакоў – тайга, тайга...*
*****
*Перавярнуўся б камень, далібог,*
*Ды, небарака, так зімой настыне –*
*За лета ўсё адзін не ўгрэеш бок.*

Мікола КУСЯНКОЎ

Скакаў я з купіны на купіну,
Аж ледзь не вывіхнуў нагу.
У ботах, што на рынку куплены,
Прайшоў амаль усю тайгу.
Не клаўся, як мядзведзь, у спячку,
А жыў, пісаў, не гараваў.
Калі ж спаткаўся з сібірачкай –
Ёй тыдзень бок адаграваў.
Бывала, што ганяў там гнуса,
Ад мошак рабацінеў твар...
Тайга, тайга, я не сагнуўся
І не сышоў на тратуар.
Хай не галіўся я ні разу,
Ды скроняў брытва не кране.
Той, хто захоча, без падказак
Пазнае, мужнага, мяне!
Прыеду ў госці (час той блізка),
Дык будзе добрых вершаў нізка.
І шышкі хвойныя пры гэтым
Падкіну пад усіх паэтаў!

**Міхась БУТКЕВІЧ,**
*г. Гомель.*

## Шэкспіру і не снілася!

*Кумір Петраркі, верны друг*
*Шэкспіра,*
*Санет маёй сумленна служыць*
*ліры...*
*****
*Нібыта ў храм, да экстрасэнса*
*Прастуе наш інтэлігент.*
*Паміж сеансамі гіпнозу*
*І перагортваннем газет*
*Муштруе Канта і Спінозу...*
*****
*Човен мой сярод штормаў стагоддзя,*
*Быццам трэска, я – кепскі матрос...*

Змітрок МАРОЗАЎ

Адверлібрыць бы мне Шэкспіра
І Петрарку з ім заадно!
Але верна служу я куміру:
Мой санет, як святое радно,

Не шкадуючы сіл і рыфмаў,
Я ствараю, нібы пад гіпнозам...
Карабель мой не кіне на рыфы –
Муштраваў я Канта, Спінозу.

Хоць і лічаць кепскім матросам,
Ды паэт я, паверце, адметны –
Вершазнаўца Змітрок Марозаў –
Зноў спляту свой вянок санетаў.

Праўда, зрэшты, ужо гатоў
Тых санетаў вянок вянкоў.

**Дзмітрый ПЯТРОВІЧ**



## Адзінай ад адзінага, альбо Вінавата клямка

*У век распусны,*
*не цнатлівы,*
*калі ўжо вернасць не ў цане,*
*я тым, каханая, шчаслівы,*
*што ты – адзіная ў мяне.*
*****
*У мароз лізнуў я клямку –*
*да яе прыліп язык.*
*Потым біла дзягай мамка –*
*тут прарэзаўся і крык.*

Анатоль ЗЭКАЎ

Я для цябе – заўжды адзіны,
Я верны, вельмі-вельмі верны.
І не траўміруй сумнай мінай,
Душу не мучай недаверам.

Калі і трызню пра кагосьці
Начной парой ці светлым ранкам,
Дык неспадзеўным быў там
госцем,
Віноўніца – дзвярная клямка.

Як лабызну жанчыны вусны,
І не хачу, а прыліпаю.
Ды не таму, што я распусны,
А страх раптоўна працінае.

Мне боль згадаецца пякучы,
Сказаць не маю сілы «годзе».
Здаецца, дзяга немінуча
Па мяккім месцы зноў паходзіць.

А тут і розум прападае,
І, не звалодаўшы з сабою,
Бы клямку, Музу абдымаю,
Ды ў думках – я заўжды з табою!

**Янусь МАЛЕЦ**






## Правільнае прозвішча

Ішлі аднойчы некалькі хлапцоў праз падземны пераход. А там мужчына сярэдніх гадоў граў на гітары. Ды так ён добра і самааддана гэта рабіў, што яны, наслухаўшыся, пачалі шукаць і даставаць манетную дробязь. Адзін з хлапцоў, які вельмі любіў лузгаць семкі, падышоў да музыкі, каб пакласці грошы ў раскладзены футляр ад гітары. І вось нахіляецца ён, кладзе капейкі і... у гэты момант любімыя прысмакі хлопца высыпаюцца з кішэні пад ногі мужчыне. Няёмкая паўза. Гітарыст пачынае смяяцца і выдае:

– Ну, хлопцы, дзякуй, што накармілі. Голубеў маё прозвішча!

## Самая разумная жанчына

Аднойчы да англійскага хірурга Джона Абернэці (1763–1831), які быў вядомы сваёй незвычайнай лаканічнасцю, звярнулася па дапамогу жанчына, якая мела тую ж рысу характару. У яе моцна апухла рука. Паміж імі адбыўся наступны дыялог:

– Апёк?

– Удар.

– Кампрэс.

На наступны дзень:

– Лепей?

– Горш.

– Яшчэ кампрэс.

Праз два дні:

– Лепей?

– Добра. Колькі?

– Бясплатна.

Калі дама пайшла, Абернэці з захапленнем вымавіў вельмі доўгую для яго фразу:

– Неверагодна разумная жанчына!

## Знаходлівасць

У адной жанчыны быў вялікі папугай, які ўмеў размаўляць, і чатыры каты. Жыла яна разам з маці і сястрой. У іх доме можна было часта пачуць фразу: «А вы катоў пакармілі?» Птушку часам выпускалі з клеткі пагуляць па пакоі, але толькі пасля таго, як уся астатняя жыўнасць закрывалася ў іншых памяшканнях кватэры.

Але аднойчы жанчына выпусціла папугая з клеткі, і ў гэты момант у пакой спакойна зайшлі каты. Яны пачалі павольна атачаць птушку, адначасова абнюхваючы яе. Папугай, не доўга думаючы, пачаў махаць крыламі і гарлапаніць ва ўсё горла: «А вы катоў пакармілі?»

**Наталля ВАЯГА.**




Уладзімір ЧУГЛАЗАЎ.




Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ і Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.




* * *

Калі ёсць талковая добрая жонка,
Не трэба тады і з багаццем скарбонка.



* * *

Як кажуць у народзе, усё свой мае час:
Раней пілі мы піва, ды перайшлі на квас.



* * *

Быў Васіль прыгожы, як рамонак,
А таму мяняў штолета жонак.



Не спадзявайся на «авося»,
Каб шкадаваць не давялося.




* * *

Як у душу дзяўчына западзе,
Не знойдзеш паратунку анідзе.



* * *

Здаецца, на розум не вельмі багаты,
Аднак жа за штосьці кахаюць дзяўчаты.

* * *

Калі мужчынам трохі менш пярэчыць,
Яны і пашкадуюць, і палечаць.



* * *

Хто працуе са стараннем –
У кішэні мае «мані».



* * *

У валошкі водар тонкі,
У пляткаркі голас звонкі.



* * *

Хто, як бык, упарты,
Той рагоў і варты.



* * *

Таму нецікавыя цуды-дзівосы,
Хто бачыць не хоча далей свайго носа.



* * *

Не спакусіцца нават варона
На таго, хто не мае «зялёных».

* * *

Парадокс такі ў жыцці бывае,
Што крумкач салоўкаю спявае.



* * *

Меў дзяўчыну Рыгор на прыкмеце,
Пакуль думаў – з'явіліся дзеці.



* * *

Хто не баіцца, рызыкуе,
Той першы з сотаў мёд смакуе.

* * *

Зрабіла адкрыццё нядаўна Зося:
Мужчыну выбіраюць не па носе.



* * *

Колькі жонку ні тулі,
Трэба мець яшчэ й рублі.




* * *

Каб цягнула мужчын на «амуры»,
Іх карміце часцей хачапуры.



* * *

Калі аладак з апетытам наясіся,
Настрой такі, што хоць бяры жаніся.



* * *

Буду з Ванем малаціць снапы –
Ён на пацалункі не скупы.

**Даслала Людміла ЮШЫНА,**
*г. Гомель.*




## Надакучылі вуглы

Аднойчы, прытуліўшыся да таты,
Заўважыў усур'ёз хлапчук малы:
«Як вырасту, збудую круглай
хату,
Бо вельмі надакучылі вуглы!»

## Ці праўда?

Унук спытаў у дзеда афіцыйна,
Забегшы ў хату з шумнага двара:
«Ці праўда, што завецца
малярыйным
Камар, які кусае маляра?»

## Крыўда

Работніца садка пасля разводу
За тое, што мужчына яе кінуў,
У групе разам з дзецьмі мо
з паўгода
Адных казлоў ляпіла з пластыліну.

## Незайздросны лёс

Напэўна, у Пятрова Генкі
Такі вось незайздросны лёс:
Ён кінуў вечарам паненку,
А ўранні чорт яе прынёс!

## Загадка

Сярод сотняў тэорый, дактрын
Мы з калегам ажно разгубіліся:
Што цягнула кабет да мужчын,
Калі грошы яшчэ не з'явіліся?

**Уладзімір ЦАНУНІН,**
*г. Вілейка.*

## Нечалавечае жыццё...













Аляксандр ПЯТРОЎ х 4.




## Слуцкая лазня

У слуцкай лазні пахне церпка дубам
І маладым бярозавым лістом.
Калі па спіне пройдзе венік чубам –
З палка, браток, не упадзі пластом.

Тут пахне півам, аж свярбіць у роце,
Трашчаць сухія плоткі, шчупакі.
І рояцца ля столікаў у поце
Расчырванелыя ад пары слуцакі.

Гамонка тут, нібы на Камароўцы,
Пра цэны, пра палітыку ў вярхах.
Народнае падсоленае слоўца
Смакуецца на вострых языках.

Пачуеш тут пра бойкі і здарэнні,
Інтым для слуцкай лазні – навіна!
«Яго ў машыне бачыў... без адзення,
А побач з ім была... ага, яна».

У рогаце – пра Пецьку анекдоты,
У слёзах – успамін франтавікоў...
Тут лечацца хваробы і згрызоты,
Тут пераблытана з нядзеляю субота,
І піва ў куфлях пеніцца наноў.

**Кастусь ЦЫБУЛЬСКІ,**
*г. Мінск.*



Анастасія СКАРКО.

## «Пераблытаў» кватэру

*З натуры*

– Вы не паверыце! – усклікнула Ніна Пятроўна, прыйшоўшы на работу.

Усе таварышы па працы ажывіліся і сталі ўважліва слухаць.

– Гэта ж мой Федзя такое вытварыў! – са смехам пачала расказваць жанчына. – Прывалокся дамоў п’яны. Адчыніў дзверы, а мы з дачкой у калідорчыку стаім, чакаем. Ён паглядзеў на нас, потым на сцены ды як закрычыць: «Прабачце, я не туды трапіў!» І кінуўся ўцякаць. Мы рушылі за ім следам. Дагналі толькі ў суседнім двары. Пытаем, маўляў, чаго ты, дурань, з дому збег?

– І што ён адказаў, чым апраўдаўся? – амаль у адзін голас запыталі калегі.

– Літаральна наступнае: «Дык у нашай жа кватэры малюнак на шпалерах пад цэглу, а калі зайшоў, то кветкі нейкія заўважыў». Не ведаў мой муж-дурань, што пакуль ён з сябрукамі чарку браў, мы з дачкой шпалеры пераклеілі...

**Міхась СЛІВА,**
*г. Рагачоў.*

## Безальтэрнатыўнасць



Здаецца, братцы, я прапаў.
Не стаць на шлях цвярозы,
Бо на плакаце прачытаў
Ці надпіс, ці пагрозу:

«Альбо піць, альбо вадзіць!»
Сяджу цяпер, гадаю.
Баранку рады я круціць,
Але ж аўто не маю.

Вось так жыццё мне сапсаваў
Плакат бескампрамісны.
У бар хутчэй пашыбаваў
Гарэлку піць наўмысна.

Узяўшы тры разы па сто,
Убачыў перспектывы:
«Калі ў цябе няма аўто,
Няма й альтэрнатывы».

**Сцяпан ЦАРЫК,**
*г. Брэст.*

# Анекдоты

На ташкенцкім рынку пакупнік падымае дыню і, каб збіць цану, кажа:

– Гэтыя яблыкі ў вас самыя вялікія?

Прадавец адразу знайшоўся:

– Не чапайце вінаград рукамі!

* * *

Рыбалоў выхваляецца перад сябрамі:

– У мінулую нядзелю я злавіў шчупака! Вось, як мая рука!

– Манюка! Такіх валасатых шчупакоў не бывае...

* * *

Вовачка пытае бацьку-метэаролага:

– Тата, а твае прагнозы ўвесь час спраўджваюцца?

– Так. Толькі даты не заўсёды супадаюць.

* * *

Маленькая Каця разглядае сямейны альбом.

– Матуля, – крычыць яна. – Хто гэты кучаравы прыгажун з чорнай барадой?

– Гэта твой тата.

– Не можа быць! А хто ж тады гэты лысы чалавек з сівым шчаціннем, які жыве з намі?

* * *

У школе я вывучаў дзве замежныя мовы: англійскую і алгебру.

* * *

У афтальмолага.

– Якую літару я паказваю?

– А вы дзе?

* * *

Хачу, каб мая жонка працавала ў якой-небудзь сакрэтнай службе. Тады яна не мела б права распавядаць мне, што ў іх было сёння на працы.

* * *

Не разумею, што мне падабаецца больш: збіраць грыбы ці проста павольна хадзіць па восеньскім лесе з нажом у руцэ.

* * *

– Ігар, ты колькі кілаграмаў можаш падняць?

– 126! І раблю гэта кожную раніцу.

– Зарадка?

– Не, проста ўстаю з ложка.

**Наталля КУЛЬГАВАЯ.**




Мікола ГІРГЕЛЬ.



Алег КАРПОВІЧ.




Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.




**Аляксандр ЗІБОРАЎ**




*Апавяданне*

Інжынер Ціцькаеў прыйшоў да свайго начальніка Князева і сказаў:

– Пераканаўча прашу вас панізіць мяне па пасадзе.

– Гэта яшчэ чаму? – строга спытаў Князеў.

– Ну, хоць бы таму, што не спраўляюся я са сваімі абавязкамі.

– Мне лепш ведаць, спраўляецеся вы ці не. Ідзіце і працуйце!

– У мяне ж незакончаная пачатковая адукацыя! – застагнаў Ціцькаеў. – Мне не паложана працаваць інжынерам. Нель-га!

– Затое ў вас багаты вопыт і вялікі талент!

– Ды я ў вас і года не працую, а да гэтага служыў вахцёрам. Гэта наконт вопыту. А цяпер пра талент: нават з лінейкай мне не ўдаецца правесці роўную лінію на чарцяжы, табліцу множання памятаю толькі часткова.

– Гэта неістотныя дробязі, але затое вы старанны, працалюбівы.

– Старанны? Ды я ж паўдня хаджу па калідорах, пляткару, куру, чай п'ю.

– Чаю не вып'еш – адкуль сілы возьмеш? Чай піць карысна, галаўны мозг лепш працуе. Лічыце чаяпіцце вытворчай неабходнасцю.

– Я на працу штодзённа прыходжу з вялікім спазненнем!

– Затое з работы ідзяце раней часу.

– Калі ўжо на тое пайшло, то ведайце, што я на вас рэгулярна ананімкі пішу!

– І выдатна! Ананімкі – рэч для ўсіх звычная, без іх маё кіраўніцтва адразу ж захвалявалася б: а ці не акружыў ён сябе аднымі падхалімамі і лісліўцамі? Так што пішыце і далей!

Ціцькаеў развёў рукамі, уздыхнуў і здаўся. Павярнуўся і пайшоў.

У гэты момант парог кабінета пераступіў мужчына з лістком паперы. Князеў глянуў на яго і ўсміхнуўся:

– Што, таксама з заявай панізіць вас па пасадзе з'явіліся? Пятаму ўжо адмаўляю.

– Не, я хачу працаваць інжынерам. Чуў, што ў вас ёсць вакансіі.

– Безумоўна, ёсць! Яшчэ колькі! Дзе ж цяпер інжынера знойдзеш? Разумныя пайшлі, шукаюць месцы больш даходныя. Як вось зараз: пачулі, што наш загадчык склада Хамячкоў ідзе на пенсію, і касякамі ходзяць, просяць панізіць спадзяюцца трапіць на яго месца. Ледзьве адбіваюся... А што вы топчацеся, давайце вашу заяву, я падпішу і заўтра ж можаце прыступаць да вашых непасрэдных абавязкаў інжынера... Дарэчы, разнарадка прыйшла: патрабуюць выдзеліць дзесяць чалавек для разборкі гнілой капусты на гароднінная базе, так што рыхтуйцеся... А што гэта вы заяву хаваеце? Куды вы?.. Вярніцеся!

**Пераклад з татарскай Міхася СЛІВЫ.**



Генры БЮТНЕР.

# Колас смяецца...

**Да 135-й гадавіны з дня нараджэння народнага паэта.**

*Крыжаванка*



**Па гарызанталі:**

**1.** «... мятлу хапае. \\ Гвалт наш певень падымае: \\ – Хто куды! Ой, хто куды!» *(з верша Я. Коласа «Храбры певень»)*. **4.** Тое, што і ўцякач *(размоўнае)*. **9.** «Куды жанчына паварочвае ..., там і галоўная дарога» *(афарызм М. Мамчыча)*. **10.** Карысць, выгада. **11.** «Як у вас, так і ў нас: \\ Сярод хаты ... . \\ Дзед бабу цалаваў, \\ Аж губамі плямкаў» *(прыпеўка)*. **12.** «Шмыгануў Алесь у хвойнік, \\ Даўшы два-тры кругі. \\ – Я ж табе, нябось, ... ! \\ Я ж вам дам, зладзюгі!» *(з верша*

*Я. Коласа «Грушы-сапяжанкі»)*. **13.** «І чуецца радасны ... — \\ Гукае Міхась: «Баравік!» *(з паэмы Я. Коласа «Міхасёвы прыгоды»)*. **15.** Паспрачаліся за мех, а ў мяху ... *(прыказка)*. **16.** Гусь ды гагара – два чобаты ... *(прыказка)*. **17.** Востры дасціпны выраз. **19.** Кожная ... свой хвост нахвальвае *(прыказка)*. **20.** «Хвіга двойчы ўжо схадзіла, \\ Двойчы ім ... чапіла» *(з верша Я. Коласа «За дождж»)*. **23.** Калючы ёрш, ды ... з яго смачная *(прыказка)*. **24.** «Як бы чорт іх тут нанёс. \\ І дзяўбуць папоў ...» *(з верша Я. Коласа «Як поп зрабіўся авіятарам»)*. **25.** «Смех ёсць ... розуму, усмешка – ... сэрца» *(выказванне братоў Ганкур)*. **31.** «Сядзіць ... на прыпечку, \\ Грае, рэжа ў скрыпачку» *(з прыпеўкі)*. **32.** Угодлівы чалавек *(размоўнае)*. **33.** Шырокая круглая пасудзіна з ручкай для зачэрпвання вадкасці. **34.** «А лісок, псялыга, \\ Сосмеху качаўся: \\ «Ой, звяры, вы, мае ... ! \\ Памажэце мне смяяцца!» *(з вершаванай казкі «Дзед і мядзведзь»)*. **35.** «І — ха-ха-ха! — зарагаталі. \\ — А каб вы, падлы, не даждалі! \\ — Гаворыць ..., сам смяецца, \\ Аж лыжка з клёцкамі трасецца» *(з паэмы Я. Коласа «Новая зямля»)*.

**Па вертыкалі:**

**1.** «..., радасць — весялуха, \\ Прыемна булькае для вуха \\ І гэтак вочы прыцягае, \\ Ну, як каханка маладая!» *(з паэмы «Новая зямля»)*. **2.** «Смех — гэта ..., якой вымушаны пакарацца вялікія гэтага свету» *(выказванне Э. Заля)*. **3.** На грош піва, а на ўсё сяло ... *(прыказка)*. **5.** «І так, бывала, наясіся, \\ Што хоць на пупіку круціся; \\ Усіх цягнула ў ... к цётцы» *(з паэмы «Новая зямля»)*. **6.** «Ой ты, ..., мой кумок, \\ Бадай табе трасца ў бок!» *(з верша Я. Коласа «Ігрышча»)*. **7.** Шэры папугай. **8.** Кароткая ..., а доўгае пакаянне *(прыказка)*. **14.** Гразь — не ..., сорам — не дым *(прыказка)*. **15.** Што-небудзь вельмі смачнае. **16.** «Вывеў цёшчу ён вон з хаты \\ Ды ў барону яе ўпрог! \\ Аж бразджаць у цёшчы пяты, \\ Проста ... курыць з-пад ног» *(з верша Я. Коласа «Зяць»)*. **18.** «Ну, такі каток харошы, \\ Як драпянка за ... грошы!» *(з паэмы Я. Коласа «Савось-распуснік»)*. **21.** «З-за вугла вылазіць Рудзька. \\ — Гаў-гаў-гаў! — давай брахаць. \\ За хвост каня кусае ... — \\ Ні адцягнуць, ні адагнаць» *(з байкі Я. Коласа «Конь і сабака»)*. **22.** ... прыгожай жанчыны — слёзы кашалька *(італьянская прыказка)*. **26.** Хітры, крывадушны чалавек *(пераноснае)*. **27.** Беларуская багіня прыгажосці і кахання. **28.** Прыстасаванне для зачысткі драўляных вырабаў, паркету. **29.** Старасць — не радасць, ... — не карысць *(прыказка)*. **30.** З песняй і ... лягчэй воз вязе *(прыказка)*.

**Адказы**

**Па гарызанталі: 1.** Гаспадар. **4.** Бягляк. **9.** Руль. **10.** Інтарэс. **11.** Ямка. **12.** Разбойнік. **13.** Крык. **15.** Смех. **16.** Пара. **17.** Жарт. **19.** Ліса. **20.** Насы. **23.** Юшка. **24.** Авёс. **25.** Весялосць. **31.** Клоп. **32.** Угоднік. **33.** Коўш. **34.** Братцы. **35.** Дзядзька.

**Па вертыкалі:** 1. Гарэлка. **2.** Сіла. **3.** Дзіва. **5.** Госці. **6.** Куме. **7.** Жако. **8.** Пацеха. **14.** Кароста. **15.** Смаката. **16.** Пыл. **18.** Тры. **21.** Цюцька. **22** Усмешка. **26.** Езуіт. **27.** Лада. **28.** Цыкля. **29.** Горб. **30.** Конь.

**Склаў Лявон ЦЕЛЕШ,**
*г. Дзяржынск.*

## Бартар

Пілуе жонка мужа,
Не лічачы да трох:
— Каб ты па гаспадарцы
Хоць штосьці дапамог!
У градах многа зелля,
Расце, нібыта лес...
Гультай ты! На канапу,
Бач, хуценька залез.
У сенцах вазьмі вёдры
Ды свінням есці дай.
Дастаўся муж мне добры —
Хоць ляж і памірай.
— Чаго крычыш, кабета?
Ды я ж усё зрабіў.
Адпачываю зараз,
Бо ноч на змене быў.

— Навошта цябе ў хату
Калісьці я ўзяла?
Здаецца, за мех бульбы
Цяпер бы аддала!
Пачула тую сварку
Суседка праз акно.
І цягне шпарка бульбу,
Плюс сала ды віно.
Хоць верце, хоць не верце,
Але прайшоў абмен
На пазітыўнай ноце,
Без крыку і без сцэн.
Праходзіць, можа, месяц,
А можа, болей чуць.
Маркоціцца кабета:
Як мужа ёй вярнуць?

Суседку ён падвозіць
На працу кожны дзень.
Зрабіўся круглы, гладкі,
Як звараны пельмень.
Качаецца, напэўна,
Нібыта ў масле сыр...
Відаць, што гаспадар ён,
Відаць, што павадыр.
***
Ці праўда то, ці выдумка,
Ды нагадаю зноў:
Шануйце, жонкі мілыя,
Штодня сваіх мужоў!

**Анатоль ТРАФІМЧЫК,**
*Карэліцкі раён,*
*агр. Краснае.*

## Дык не даставайся ты нікому!

Для многіх мужчын аўтамабіль — гэта быццам другі дом. І зразумела, што да сваёй асабістай прасторы яны часам адносяцца з рэўнасцю. І крый божа, калі нехта паквапіцца на іх любімую маёмасць!

Так, у аднаго гамяльчаніна за язду ў стане алкагольнага ап'янення канфіскавалі любімы «мерседэс». Той доўга гараваў, але неўзабаве ўбачыў свой «другі дом» у суседнім двары. Умомант мужчыну апанавала злосць, што на яго машыне ездзіць нехта іншы. Таму вырашыў: «Дык не даставайся ты нікому!» Гамяльчанін узяў запасны ключ, які захаваўся ў яго, украў аўтамабіль і прадаў на запчасткі.

Праўда, у хуткім часе былога ўладальніка аўто затрымалі супрацоўнікі міліцыі. Яму пагражае да сямі гадоў зняволення. А гэта значыць, што цяпер у гора-аўтамабіліста з'явіцца новая асабістая прастора. Але, мабыць, яе давядзецца дзяліць з іншымі злодзеямі.






## Галоўны прыз — турма

Хто з вас не марыў пра галоўны прыз у латарэі? Прыдумлялі, на што б патрацілі атрыманыя грошы ці як абсталявалі новую кватэру? Канешне, шанец стаць пераможцам вельмі малы, але ён ёсць у кожнага.

Вось толькі што рабіць, калі жаданне выйграць у латарэю маецца, а грошай на набыццё запаветнага квіточка няма? Дадзім вам адну параду: не рабіце, як мужчына са Светлагорска. Добра выпіўшы гарэлкі, ён захацеў праверыць сваю ўдачу. Прыйшоў у кіёск, які прадаваў латарэі, і ўкраў 20 білетаў «Ваше лото».

На наступны дзень мужчыну знайшлі міліцыянеры. Скрадзеныя білеты былі канфіскаваны. Шкада, што ахвотнік лёгкай удачы іх сапсаваў — пакрыццё на палях «Сціраць тут» было пашкоджана. Дарэчы, у двух білетах быў выйгрыш па два рублі. Але ўсё ж такі жыхар Светлагорска выйграў галоўны прыз — тэрмін у турме. Толькі сумняваемся, што менавіта пра гэта ён марыў.

## Народная мудрасць

«Не будзь ласы на чужыя каўбасы». Народная мудрасць хлусіць не будзе! Але знаходзяцца злодзеі, якія імкнуцца сцягнуць такія мясныя далікатэсы, нават калі яны схаваны за сямю замкамі.

Напрыклад, 23-гадовы вадзіцель адной сталічнай фірмы загарэўся ідэяй прысвоіць грошы свайго дырэктара. Неяк ноччу ён таемна трапіў у офіс, дзе з кабінета начальніка ўкраў сейф. Потым на таксі даехаў да Жлобіна і ўжо там ускрыў замок з дапамогай загадзя зробленага дубліката ключа. У сейфе хлопец знайшоў 850 долараў і 24 тысячы рублёў.

Літаральна ў абед наступнага дня злодзея затрымалі. За «чужыя каўбасы» ён можа прабыць за кратамі тры гады. Ці будзе хлопец зараз з большай увагай прыслухоўвацца да народнай мудрасці?

**Наталля КУЛЬГАВАЯ.**




Уладзімір ЧУГЛАЗАЎ.




Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ і Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.




Хто закладвае за каўнер, той на чорны дзень не адкладзе.

Будзеш таўчы ваду ў ступе — апынішся на мелі.

Калі трапляеш пад гарачую руку, дык можа і ў дрыжыкі кідаць.

Каго грахі ў рай не пускаюць, нярэдка знаходзіць для сябе добрае месца і на Зямлі.

Крывіць душою часта той, у каго ў галаве мала звілін.

На шырокую нагу не пагуляеш, калі вузка з грашыма.

Не трэба бегчы наперадзе паравоза, нават калі спазняешся на цягнік.

На жаль, не ўсе адрозніваюць мацернае слова ад мяцярынскага.

Для іншага напіцца да чорцікаў — святая справа.

Скачуць ад печы часта гарачыя галавы.

Хто адносіцца да ўсяго ў жыцці без ілюзій, той не будзе будаваць і паветраных замкаў.

Калі будзеш варушыць мазгамі, дык і ў тваім жыцці застою не будзе.

Нельга судзіць пра веліч чалавека па размеры яго кашалька.

Для прыцэлу ў будучым, не трэба не забывацца на промахі ў мінулым.

**Барыс КАВАЛЕРЧЫК,**
*г. Гомель.*

«Вожык» — грамадска-палітычны, літаратурна-мастацкі часопіс
16+
№ 11 (1550), 2017 год.
*Выдаецца з ліпеня 1941 года.*
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».

Намеснік галоўнага рэдактара
Аляксандр Пятровіч КАРШАКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: Сяргей ВОЛКАЎ, Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ, Мікола ГІРГЕЛЬ, Юлія ЗАРЭЦКАЯ, Міхась КАВАЛЁЎ, Казімір КАМЕЙША, Алег КАРПОВІЧ, Міхась ПАЗНЯКОЎ, Уладзімір САЛАМАХА, Васіль ТКАЧОЎ, Мікола ШАБОВІЧ.
Рэдакцыя: Аляксандр КАРШАКЕВІЧ *(намеснік галоўнага рэдактара, мастацкі аддзел)*, Наталля КУЛЬГАВАЯ *(аддзел фельетонаў і пісьмаў)*, Вераніка МАНДЗІК *(аддзел літаратуры)*.

Адрас рэдакцыі
Юрыдычны адрас: Рэспубліка Беларусь, 220013, г. Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10 а.
E-mail: info@zviazda.minsk.by.

Паштовы адрас: Рэспубліка Беларусь, 220005, г. Мінск, праспект Незалежнасці, 39.
E-mail: a-vojik@yandex.by; vozhyk@zviazda.by;
Тэлефоны: галоўнага рэдактара — 288-24-62, намесніка галоўнага рэдактара, аддзелаў фельетонаў і пісьмаў, літаратуры, мастацкага — 284-84-52, бухгалтэрыі — 287-18-81, факс — 284-84-61.

Падпісныя індэксы:
74844 — індывідуальны, 01380 — індывідуальны льготны,
748442 — ведамасны, 01381 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 520 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»
Дырэктар — галоўны рэдактар Павел Якаўлевіч СУХАРУКАЎ

Камп'ютарная вёрстка: Дар'я КАМЕЙША
Стыльрэдактар: Марыя ГІЛЕВІЧ

Падпісана да друку 09.10.2017. Фармат 60x84 $^1/_8$. Афсетны друк.
Папера афсетная. Ум. друк. арк. 2,79.
Ул.-выд. арк. 3,58. Тыраж 831 экз. Заказ .

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «БудМедыяПраект».
ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014, вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск, Рэспубліка Беларусь.






Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.